# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 24 (955) ГОД XIX БЕЛАСТОК 16 ЧЭРВЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.




З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-годдзю ПНР

*КВАРТЭТ З ПЛЁСКАУ*

*У катэгорыі сучаснай песні ў групе вакальных калектываў сёлетняга цэнтральнага песеннага агляду БГКТ другое месца заняў дзявочы квартэт з Плёскаў (злева направа): Зося Бало, Іра Паўлючук, Оля Амельянчук і Ліда Максімюк. Акампаніруе Міраслаў Іванюк.*

*Фота А. Карпюка.*

ЧАЛАВЕК ЧАЛАВЕКУ...




Вёска Райкі ўжо далёка заставалася за мною, аднак вобраз дзвюх бабуль: адной згорбленай, з кійком, няўпэўнена шукаючай дарогі, і другой — скручанай у клубочак на ложку, пад дзіравым дахам, — неадлучна праследаваў мяне, як злая мара. Нягледзячы на тое, што я чуў і бачыў, усё яшчэ не хацелася мне верыць, каб нашы землякі, праслаўленыя ў свеце сваёй шчырай гасціннасцю, праяўлялі такую абыякавасць у адносінах да крыўды абяздоленага чалавека!

З гэтымі думкамі прыехаў я ў Кляшчэлі. Начальнік гміны Андрэй Місеюк ахвотна расказаў мне аб справах свайго „каралеўства“. А калі яму не хапіла ўжо прыкладаў грамадскай актыўнасці насельніцтва Кляшчэлеўскай гміны, тады ён успомніў:

— Ага, яшчэ ў Кляшчэлях грамадскім чынам моладзь пабудавала драўляны дом аднаму беднаму інваліду...

Мне здалося, што я не зусім добра зразумеў словы свайго інфарматара. Чуў і апісваў пра пабудову грамадскім чынам дарог, школ, крамаў, цэнтраў здароўя, злеўняў малака, клубаў і дамоў культуры. Але жылы дом для беднага чалавека... Як гэта сталася?

— Найлепш вам раскажа пра гэта Яўген Юзвюк, — заявіў начальнік. — Ён тут працуе.

— Аднойчы зімовым вечарам, здаецца ў студзені, — распачаў свой расказ малады чалавек, — сядзелі мы ў пажарнай святліцы і гралі ў карты, бо што мелі рабіць, калі тэлевізійная праграма не цікавіла, а дзяўчат цалаваць публічна не выпадала?! Дык шпарылі — хто ў „тысячу“, хто ў „дурня“, каб час забіць, і тады адазваўся Міхась Глацкі, ён шафёрам у стражы працуе, чалавек добрасумленны, дык кажа нібы жартам: „Замест па-дурацку гуляць у „дурня“, вы б лепш вось хату Слівінскаму пабудавалі! А то бездапаможны інвалід з цэлай сям'ёй у развалінах тут жа пасуседску, як нялюдскае стварэнне, на марозе замярзае“.

Цяпер і я ўспомніў гэтыя „старажытныя“ развалiны старога драўлянага дома, якія няраз прыйшлося бачыць ля

(Працяг на стар. 4)






СУСТРЭЧЫ З ЗЕМЛЯКАМІ

# КАНСТРУКТАР

У суседнім пакойчыку гулялі Аня і Кася — сёстры-аднагодкі, вучаніцы II класа пачатковай школы. У іх бестурботны гоман уліваўся голас старэйшага, першароднага, адзінаццацігадовага брата Юркі.

Пані Таццяна Більчук штораз адрывалася ад стала, каб іх супакоіць. У яе позірку чытаю, што думкамі адплывае яна недзе далёка. Дык і я маўчу.

— Бачыце, — адгукаецца яна праз хвіліну — колькі раз чую аб так званых *„дасягненнях народнай улады“*, я заўсёды думаю пра сябе, пра маіх сяброў. Яны ж цяпер таксама інжынеры, магістры, дырэктары... Божа ж мой... нашым бацькам... што там прабацькам!.. Панам над нашымі бацькамі такое нават не снілася...

— Дык давайце пагадаем: кім або чым былі б вы, каб у нашых вёсках засталіся даваенныя парадкі?

— Даваеннага часу я не памятаю, бо ледзь год мела, калі ўспыхнула гэтая лютая вайна. Але пагадаць — чаму ж не — можна. Я была б напэўна вясковай гаспадыняй, даіла б каровы, карміла б парасят і штогод радзіла б па дзіцяці...

Яе дзяцінства пачалося ў вёсцы Аўгустова пад Бельскам у сям'і Марыі і Яна Асеннікаў.

— Бываю там я кожны год летам. Дапамагаю бацькам пры ўборцы збожжа, — кажа пані Таццяна. — Там таксама жыццё змянілася не да пазнакі.

— Дык што, можа не аплацілася вам прабівацца ў магістры інжынеры? Можа і ў ролі вясковай гаспадыні жылі б вы не менш шчаслівa?

А яшчэ раней была праца на Гданьскім прадпрыемстве прамысловага будаўніцтва.

— Найдаўжэй я працавала на Гданьскай электраабагравальнай станцыі. Гэта буйная новабудоўля.

Прайшла яна ўсе ступені кар'еры інжынера-будаўніка, якія змяшчаюцца між уступнай стажыроўкай і загадчыкам будовы. У непагадзь і пад пякучым сонцам, у цяжкіх гумовых ботах, якія гразнулі ў раскіслай гліне, у ватоўцы і ў летняй сукенцы, але заўсёды пад каляровым засцерагальным каскам найчасцей яна першая разам з падначаленымі рабочымі ўваходзіла на новабудоўлю, бо да яе абавязкаў належала загаспадаранне плошчы будучай будовы. Яна са сваімі брыгадамі выконвала склады і будынкі бытавога прызначэння, каб пасля іншыя мелі лепшыя ўмовы працы.

— Чаму вы выбралі для сябе такую зусім не жаночую прафесію?

— Магла б адказаць, — усміхаецца яна, — што тады, калі я канчала Бельскі беларускі ліцэй, а быў гэта год 1955, яшчэ модна гучаў лозунг: *„Дзяўчыны на трактары і да кельні!“*. Можа таму на аддзяленні сухапутнага будаўніцтва Гданьскай палітэхнікі, дзе я распачала навуку, дзяўчат назбіралася даволі многа, бадай не менш адной трэцяй усіх студэнтаў. Але так па праўдзе, то пайшла я туды, бо там ужо вучыліся мае сябры-аднавяскоўцы: Марыся Хіліманюк і Пятро Верамюк. Гэты апошні цяпер з'яўляецца маім кумам і важным дырэктарам. І яшчэ таму, што на гэтым факультэце абяспечвалі і інтэрнатам і стыпендыяй.

— Што засталося ў вашай памяці з таго часу, калі вучыліся ў ліцэі?



— А хто яго ведае? Я толькі ўпэўнена ў тым, што і цяпер жывецца мне зусім нядрэнна...

Цяпер пані магістр інжынер Таццяна Більчук з'яўляецца адказным работнікам праектнага бюро Гданьскай суднаверфі (сточні).

— Гэта цікавая самастойная, хаця адказная работа, — гаворыць яна. — Кожная праблема прымушае тут думаць... Трэба праяўляць канструктарскі талент.

— Засталіся самыя прыемныя ўспаміны, а перш за ўсё высокі ўзровень навукі, пастаянная турбота ўсіх настаўнікаў за сваіх вучняў і наш каханы дырэктар Кастыцэвіч... Я была членам школьнага хору. Рэпетыцыі часта зацягваліся да позняга вечара. Прысутнічаў на іх амаль заўсёды наш незабыўны Яраслаў Васільевіч, а пасля яшчэ адводзіў нас аж за Бельск... Бо жылі

(Працяг на стар. 4)




Пра белавежскія мастацкія пленеры мне даводзілася ўжо пісаць не раз. З увагай сачыла я за апошнімі пленерамі і мела, дзякуючы гэтаму, магчымасць пазнаёміцца бліжэй з іх плёнамі.

Аглядаючы карціны, я заўсёды шукала ў іх духа Белавежы, матываў, навеяных першабытнай пушчай, яе нязвыклым хараством, непаўторнасцю. Мне здавалася, што не бачыць гэтага хараства, не перанесці яго (тым ці іншым мастацкім метадам) на палатно, проста немагчыма, як немагчымым было б не пакахаць Белавежу ад першага погляду.

Вынікі II міжнароднага, а IX агульнапольскага белавежскага мастацкага пленеру пераканалі мяне, што некаторыя мастакі прыязджаюць на пленер па прынцыпу: прыехаў, то мушу нешта выставіць, мушу, так сказаць, разлічыцца з арганізатарамі. Карціны, відаць, часта маляваліся паспешна, аўтары не высіляліся, каб у нетрах пушчы знайсці для сябе нейкую сваістую, новую з'яву і перанесці яе на палатно менавіта тут, у Белавежы, і менавіта так, бо ў Белавежы.

Ну, бо што з таго, што аўтар (нават і вельмі добры) намалюе яшчэ серыю завіясаў, звілін, прыгожых візуальна і складаных, як само жыццё, калі не ўнеслі яны ў яго творчасць нічога новага, з Белавежы?... Маю тут на думцы Конрада Яродскага з Вроцлава. Кожная яго карціна з пленеру сама па сабе напэўна будзе выклікаць цікавасць. У супастаўленні ж яны трацяць свой эфект, адрозніваючыся толькі колерам фону.

Тое, што закідаю я Конраду Яродскаму, магу таксама закінуць Баляславу Шпэхту з Кракава (хаця і ён, як кажуць фахоўцы, добры мастак), Анне Карыбут-Дашкевіч з Ольштына (якая ніяк — сачу ўжо ладных пару год — не можа выйсці з абсесіі анатоміі чалавека), ды і многім нашым беластоцкім мастакам.

Ну, бо што з таго, калі, ідучы на кожны наступны вернісаж, ці ён будзе вынікам пленеру ў Цеханоўцы, ці ў Белавежы, ці ў Наваградзе, я цвёрда буду ведаць, што на карцінах Веслава Юркоўскага я ўбачу толькі аднаго каня (няхай сабе ён будзе чырвона-зялёны, блакітна-чорны, ці які іншы, але такі самы ў форме і сваім выразе), што ў Аліцыі Харосцей будуць новыя адмены шэра-белага сплёту мора думак (хаця лічу, што робіць гэта дасканала)?!

(Працяг на стар. 3)

# ШТО НОВАГА?

## У сельскагаспадарчых школах

Канчаецца чарговы год школьнай навукі. Выпускнікам пачатковых школ трэба рашыць: куды накіравацца далей?

У сувязі з гэтым папрасілі мы кіраўніка аддзялення сельскагаспадарчай асветы пры Ваяводскім упраўленні ў Беластоку, таварыша Мікалая Ільяшука, каб расказаў нашым чытачам аб магчымасцях навукі ў сельскагаспадарчых школах.

— Дазвольце прыпомніць, — пачаў тав. Ільяшук, — што ад 1 студзеня 1976 года кожны, хто захоча пераняць бацькаўскую гаспадарку, будзе абавязаны прадставіць дакумент аб адпаведных кваліфікацыях для працы на гэтай гаспадарцы. Такія патрабаванні ставіць загад Рады Міністраў ад 10 ліпеня 1970 года ў справе спадчыны на гаспадарку і іншыя сельскагаспадарчыя нерухомасці. У Беластоцкім ваяводстве ёсць і цяпер звыш 160 тысяч аднаасобных гаспадарак, а толькі каля 35 тысяч сялян мае неабходныя кваліфікацыі для іх апрацоўкі. Што будзе тады праз год, калі ўлады пачнуць патрабаваць адпаведных дакументаў?

— Значыць, прагрымеў апошні званок і час падумаць пра адпаведныя кваліфікацыі. Якую ж школу трэба закончыць, каб атрымаць гэтыя кваліфікацыі?

—Трэба закончыць:

— двухгадовую асноўную сельскагаспадарчую школу, або

— тры ступені навукі ў калектывах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, або

— кваліфікацыйныя курсы, або

— адзін з розных сельскагаспадарчых тэхнікумаў.

Вясковай моладзі найлепш аднак атрымліваць прафесію гаспадара ў засаднічых сельскагаспадарчых школах, яны найбольш даступныя, знаходзяцца ў кожнай гміне і даюць добрую падрыхтоўку для працы на ўласнай гаспадарцы.

— Ці толькі на ўласнай гаспадарцы?

— Не, не толькі. Выпускнікі засаднічых сельскагаспадарчых школ могуць прадаўжаць навуку ў дзённых, завочных і тэлевізійных тэхнікумах.

— Колькі сельскагаспадарчых школ ёсць цяпер у Беластоцкім ваяводстве?

— Звыш 1500 такіх школ з інтэрнатамі і 3.786 школ без інтэрнатаў. Яны поўнасцю забяспечваюць нашы патрэбы, і мы можам прыняць у іх кожную колькасць вясковай моладзі, якая захоча атрымаць прафесію гаспадара.

— А колькі маладых дзяўчат і юнакоў вучыцца цяпер у сельскагаспадарчых школах?

— Звыш 12 тысяч дзяўчат і юнакоў.

— Якую школу вы асабліва рэкамендуеце?

— Асабліва заахвочваў бы выпускнікоў пачатковых школ Сямяціцкага і суседніх паветаў, каб пацікавіліся сельскагаспадарчымі школамі ў Астражанах. Там калісьці знаходзіўся панскі фальварак, а цяпер пабудавалі мы прыгожыя будынкі для тэхнікума і засадніцай сельскагаспадарчай школы.

— Ці выпускнік асноўнай сельскагаспадарчай школы, апрача прафесіі кваліфікаванага гаспадара, атрымоўвае яшчэ нешта дадаткова?

— У праграме гэтых школ прадбачваецца навука язды на трактары, а дзяўчаты яшчэ дадаткова вучацца ўсім хатнім ведам.

— Значыць, карысна шукаць кандыдаткі ў жонкі сярод выпускніц сельскагаспадарчых школ...

— І мужа таксама.

— Ці вучні сельскагаспадарчых школ атрымоўваюць стыпендыю?

— Так. Хаця не ўсе. Стыпендыю даем для найбольш патрабуючых.

— У вашым кабінеце бачу шматлікія спартыўныя кубкі...

— Яны сведчаць аб спартыўных спаборніцтвах нашых школ. Кожны год наладжваем мы спартыўныя спаборніцтвы і алімпіяды, у якіх вучні сельскагаспадарчых школ з нашага ваяводства не бываюць апошнімі.

Апрача гэтага ў нашых школах бурліць багата асветна-культурнае жыццё. Вучні спяваюць, танцуюць, ездзяць на экскурсіі. (вр)

МІНСКІЯ СУСТРЭЧЫ

# „Паўлінка“ — аперэта

Месяц таму назад я быў у Мінску. Вельмі здзівіўся, калі ўбачыў афішу, у якой паведамлялася аб тым, што ў мясцовай аперэце ставіцца „Паўлінка“ Купалы. Падумаў, што гэта нейкая памылка. Вядома было, што „Паўлінка“ — гэта тэатральная камедыя, а не аперэта. Усё выяснілася ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у якім я сустрэў вядомага беларускага паэта — аўтара некалькіх оперных лібрэта Алеся Бачылу. Аказалася, што ён перарабіў „Паўлінку“ на аперэту. Стварыў лібрэта, а музыку напісаў вядомы беларускі кампазітар Юры Семяняка. Алесь Бачыла запрасіў мяне ў тэатр аперэты на спектакль „Паўлінкі“. Ішоў я з пэўнымі сумненнямі. Не вельмі ўяўляў, якім чынам з класічнага тэатральнага спектакля зрабіць твор, у якім музыка адыгрывае раўназначную ролю з тэкстам — аперэту.

Са спектакля я выйшаў захоплены. „Паўлінка“ дасканала падыходзіць да аперэтнай сцэны. Каляровасць, рух, дынаміка, песня, музыка, слова — ўсё гэта спалучалася ў прыгожую стройную цэласць. Неяк зацерлася мяжа паміж мужыцкасцю і шляхецкасцю ў тэксце „Паўлінкі“. Не значыць гэта, зразумела, што аперэта ступіла вастрыё „Паўлінкі“, накіраванае супраць фанабэрыстасці, зазнайства і ўнутранай пустэчы галоўнага прадстаўніка шляхецкай ідэалогіі — Быкоўскага. Аперэта дазваляе прымяняць гіпербаліку, перабольшанне, крайнасць. Усё гэта якраз дасканала выкарыстана з мэтай кампраметацыі Быкоўскага. Пры гэтым аднак аўтар лібрэта Алесь Бачыла стараецца наблізіць усіх іншых герояў шляхецкага асяроддзя да сялянскасці. І тут можна было б паспрачацца з аўтарам лібрэта і з пастаноўшчыкам-рэжысёрам. Справа ў тым, што героі п'есы — бацькі Паўлінкі Крыніцкія і іх сябры Пустарэвічы вельмі часта ў п'есе падкрэсліваюць свае варожыя і пагардлівыя адносіны і да рэвалюцыйнасці Сарокі Якіма і вогуле да ўсяго мужыцкага. І аўтар лібрэта і пастаноўшчык згладжваюць гэты канфлікт. Неяк ненатуральна і хіба нязгодна з ідэяй Купалы выглядае сцэна, у якой амаль усе героі п'есы, у тым ліку Крыніцкі і Пустарэвіч, спяваюць сялянскі гімн Купалы — верш „Мужык“. Верш гэты, як вядома, напісаў Купала ў зусім іншых умовах, чым тыя, у якіх была створана „Паўлінка“. Ідэалогія гэтага верша не мае нічога супольнага з падпанкамі тыпу Крыніцкіх і Пустарэвічаў і таму, быць можа, не трэба было звязваць тое, што не мае ні гістарычнага, ні ідэйнага сваяцтва.



*Сцэна з аперэты „Паўлінка“ ў пастаноўцы Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР.*

*Фота Э. Трыгубовіча.*

Трэба, аднак, сказаць і іншае. Ідэалогія не з'яўляецца галоўным элементам бадай што 90% аперэт света. Па гэтай прычыне няма сэнсу рабіць закіду аўтарам аперэты „Паўлінка“ з прычыны такіх ці іншых ідэйных непаслядоўнасцей. Галоўнае ў аперэце — дынаміка, музыка, дэкарацыя, харэаграфія. І тут аперэта „Паўлінка“ выйгрывае на ўсіх франтах. Пачынаецца яна ад каларытнай сцэны на кірмашы, у якой цэнтральнае месца займае карусель. Сцэны такой, як вядома, няма ў Купалы.

Увёў яе Алесь Бачыла. Сцэна гэтая дасканала ўводзіць у спецыфічны беларускі настрой. Дае аперэце этнаграфічную афарбоўку, лёгкасць, ілюзію адвечнага руху і адвечнай мітусні ў нашым жыцці. Сцэна рынку і каруселі істотная тым, што дзякуючы ёй знаёмімся амаль з усімі героямі, якія выступаюць у „Паўлінцы“. Далейшыя сцэны згодныя з арыгіналам Купалы.

(Працяг на стар. 5)

# БГКТ хроніка

■ 30 мая адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. Гэтым разам было яно выязное і адбывалася ў Плёсках над рэчкай Нарвай у Бельскім павеце.

Першай справай, якая разглядалася на пасяджэнні, была ацэнка справаздачнай кампаніі, праведзенай у гуртках БГКТ. Найперш гэта кампанія была арганізавана ў Беластоцкім павеце і даволі добра — у Сямяціцкім. Да гэтай пары яшчэ не закончана справаздачная кампанія ў Сакольскім і Дуброўскім паветах. Не адбылося яшчэ справаздачных сходаў ў 24 гуртках з 188 існуючых. У даны момант арганізацыя БГКТ налічвае 5496 членаў. Справаздачная кампанія для многіх гурткоў БГКТ была кампаніяй справаздачна-выбарнай. Спрыяла яна значнай актывізацыі дзейнасці гурткоў як на ніве беларускай культуры, так і ў грамадска-палітычнай працы. Многія гурткі БГКТ былі ініцыятарамі грамадскай працы. А вось некалькі прыкладаў: гурток БГКТ у Залуках быў ініцыятарам рамонту дарогі Залукі-Сафіпаль, гурток у Чэхах Арлянскіх — рамонту дарогі Чэхі-Вітава, у Дубічах Царкоўных — дарогі Дубічы-Тафілаўцы, у Паўлах — дарогі Паўлы-Целушкі. Гурток БГКТ у Рыбаках быў арганізатарам будовы фундаментаў пад вясковую краму, а гурток у Дубяжыне грамадскім чынам пабудаваў святліцу. Масавы быў удзел членаў гурткоў БГКТ з Сухавольцаў, Сакоў, Палічнай, Дабрывады і Кляшчэль у „Зялёнай нядзелі“ (28.IV.1974 г.) пры пасадцы лесу. Падобных прыкладаў грамадскай працы ёсць даволі многа.

У другім пункце павесткі дня пасяджэння Прэзідыума ГП была інфармацыя галоўнага рэдактара „Нівы“ Георгія Валкавыцкага аб напрамках прапагандыстцка-выхаваўчай працы і аб падпісцы і продажы „Нівы“ ад 1.I.1973 года. Прысутныя станоўча ацанілі працу рэдакцыі, формы і змест публікаваных у часопісе матэрыялаў. 1973 год быў самым плённым годам ў распаўсюджванні „Нівы“. Цяпер яе тыраж перавышае 8 тыс. экземпляраў, ёсць каля 5,4 тысяч падпісчыкаў.

Члены прэзідыума ГП з вялікім зацікаўленнем выслухалі інфармацыю аб шматграннай дзейнасці гуртка БГКТ у Плёсках, якую прадставіла старшыня гуртка Люся Васілюк. Працы гуртка ў Плёсках будзе прысвечана асобная публікацыя.

Прэзідыум ГП пастанавіў прызнаць узнагароду старшыні гуртка ў Плёсках Л. Васілюк. Зацвердзіў таксама сталага рэдактара беларускага календара. Будзе ім журналіст „Нівы“ Мікалай Гайдук.

■ 1 чэрвеня нашы паэты Алесь Барскі і Віктар Швед правялі аўтарскія сустрэчы на Сакольшчыне, у Піражках і Крынках.

■ 16 чэрвеня сямяціцкі аддзел БГКТ арганізоўвае народны фэстын, які адбудзецца ў Літвінавічах.

■ 2 чэрвеня ў Гайнаўцы на ўрачыстасці сялянскага свята, галоўным арганізатарам якога быў павятовы камітэт ЗСЛ, выступіла балетная група калектыву песні і танца „Белавежа“. (мх)

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 16.VI.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Upr. rośl. 7.30 Kurs Rol. 8.15 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Ex libris. 10.30 Piłka nożna Polska — Argent. 12.05 Dziennik. 12.20 Pr. wiejski. 12.35 Karajan dyryg. Beethovena. 13.45 Polską koleją w Andy. 14.00 Piórkiem i węglem. 14.25 Dla dzieci. 15.05 Nie tylko dla pań. 15.35 Kwadrans tyg. 15.50 Los. Toto—Lot. 16.10 MY — 74. 17.15 Refleksje ob. 17.30 Przyjąć czy odrzucić. 18.20 Silna Grupa pod Wezwaniem. Pr. rozr. 19.15 Dobranoc 19.30 Dziennik. 20.20 Film fab. 22.15 Sport.

**Poniedziałek 17.VI.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mech. rol. 15.40 Nurt — Ekonom. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Kur. Lub. 18.05 Telewariacje. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Mister Exportu. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr TV: J. Iwaszkiewicz — Sława i chwała. 21.40 Sport. 21.50 Rozmowa z pisarzem Z. Bieńkowskim. 22.15 Pieśni M. Karłowicza śpiewa A. Hiolski. 22.35 Dziennik.

**Wtorek 18.VI.** 6.30 Tech. Rol. J. polski. 7.00 Mech. rol. 10.00 Film TVP. 13.45 Tech. Rol. Zoolog. 14.30 Mat. 16.00 Pr. dnia. 16.05 Dla dzieci. 16.30 Dziennik. 16.40 Studio Zlotowe Tel. Mł. 16.50 Dla młodzieży. 17.40 Kr. Warsz. i Maz. 18.00 Targi Techn. 18.30 Dziennik. 19.10 Dobranoc. 19.20 Piłka nożna. Brazylia — Szkocja. 21.20 Ridolini — film arch. 21.50 Dziennik. 22.05 Przegląd Piłk. Mistrz. Św. Brazylia — Szkocja; Chile — NRD; RFN — Australia; Jug. — ZAIR

**Środa 19.VI.** 6.30 Tech. Rol. Zoolog. 7.00 Mat. 8.30 Piłka nożna. Brazylia — Szkocja. 10.05 Józef Balsamo — film franc. odc. II. 12.45 Tech. Rol. Fiz. 13.25 Mat. 14.40 Politech. TV Kurs przygot. Fiz. 16.05 Pr. dnia. 16.10 Inf., Tow., Prop. 16.30 Dziennik. 16.40 Harcerski Raport. 17.20 Los. Mał. Lot. 17.35 Kr. Warsz. i Maz. 17.55 Z siedmiu anten. 18.30 Dziennik. 19.10 Dobranoc. 19.20 Piłka nożna. Polska — Haiti. 21.20 Józef Balsamo — film franc. odc. II. 22.15 Dziennik. 22.30 Przegl. Piłk. Mistrz. Św. Argent. — Włochy; Haiti — Polska; Urugwaj — Bułg; Holand. — Szwecja.

**Czwartek 20.VI.** 6.30 Tech. Rol. Fiz. 7.00 Mat. 8.30 Piłka nożna Polska — Haiti. 10.05 Al Capone i inni. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Hod. zwierz. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Twarzą w twarz. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Bez togi. 19.00 Test — Słownik Ekonom. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni. 21.10 Sport. 21.20 Czym żyje świat. 21.50 Dozwolone od lat czterdziestu St. Grodzieńskiej. 22.15 Dziennik. 22.30 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 21.VI.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Hod. zwierz. 10.00 Film fab. 12.45 Tech. Rol. Ochrona rośl. 13.25 Chem. 14.40 Politech. TV. Kurs przygot. Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.20 Turystyka i wyp. 17.45 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Chełm 44. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 20.50 Panorama. 21.30 Sport. 21.40 Filmoteka Arcydzieł: Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów. 23.10 Dziennik.

**Sobota 22.VI** 6.30 Tech. Rol. Ochr. rośl. 7.00 Chem. 10.00 Zdrowa wdowa — film fab. czech. 13.40 Tech. Rol. Zoolog. 14.20 J. pol. 14.50 Pr. dnia. 14.55 Pr. I prop. 15.20 Szare na złote. 15.50 Piłka nożna. Szkocja — Jug. 17.50 Dla dzieci. 18.10 Polska szkoła matematyczna. 18.30 Monitor. 19.10 Dobranoc. 19.20 Piłka nożna. NRF — NRD. 20.15 Sport. 21.20 Pegaz. 22.05 Dziennik. 22.25 Zdrowa wdowa — film fab. czech. 23.20 Przegl. Piłk. Mistrz.. Św. Szkocja — Jug. NRF — NRD; Brazylia — ZAIR; Australia — Chile.

# КІНО

**Białowieża** Francuski łącznik — fran. 18—19. Dziewczyna z gór — jug. 20—21. Chłopi — pol. cz. I i II. 22—23.

**Czeremcha** Narkomani — USA 18—19. Walter broni Sarajewa — jug. 22—23.

**Czyże** Drogi mężczyzn — czes. Słoń z indyjskiej dżungli — radz. 19—23.

**Dubicze Cerkiewne** Śmiałość — radz. Sześć niedźwiadków i klown Cebulka — czes. 19—23.

**Gródek** Tragedia Mahbeta — ang. 22—23.

**Kleszczele** Rondo — jug. 18—19. El Dorado — USA 20—21. Ciemna rzeka — pol. 22—23.

**Michałowo** Mały wielki człowiek — USA 18—19. Roztargniony — fran. 20—21. Zazdrość i medycyna — pol. 22—23.

**Mielnik** Przygody misia Yogi — USA 18—19. Poczekam aż zabijesz — czes. 20—21. Wykryć szpiega — radz. 22—23.

**Milejczyce** Hajducy kapitana Angela — rum. 18—19. Niewygodny kochanek — włos. 20—21. Spragniona miłości — bułg. 22—23.

**Narew** Drogi mężczyzn — czes. Słoń z indyjskiej dżungli — radz. 19—23.

**Narewka** Góry, rzeki, ludzie — pol. W imieniu prawa — fran. 19—23.

**Nurzec** Front wyzwolenia — pol. 18—19. Pierścień księżnej Anny — pol. 20—21. Pierwsze dni — pol. 22—23.

**Orla** Nareszcie poniedziałek — węg. Raport 36 — kor. 19—23.

**Rajsk** Kes — ang. Na rabunek — radz. 19—23.

**Suchowola** Arcymistrz — radz. Wspomnienia z przeszłości — NRD 19—23.





B.Z.Graf. zam. 1655 0-4

Пачатак на стар. 1

# Дзе пушча?

Разумею, што мастакі не едуць у Белавежу дзеля таго, каб карэнным чынам змяніць свой стыль. Натхненне, якое дае пушча, прыдасца для кожнага стылю. Але так хацелася б, каб людзі, прыязджаючыя ў Белавежу, забралі адтуль на палатне і панеслі далей у свет часцінку яе непадкупнага характва, яе суровай маўклівасці і задумёнасці, шчырасці і прыхільнасці, яе вопыту і павагі.

Лічу, што некаторым мастакам гэта ўдалося спаўна. Асабліва захапіла мяне карціна Галіны Эйсымант з Варшавы „Белавежа ўначы". Яна выдзяляецца, хочаш-не хочаш, на фоне рэшты прац. Усё на ёй празрыстае і чароўнае: і ноч, і палац, і кусты. На ўсё гэта лёг ясны промень. Промень зафасцынавання тым, што аўтар працы ўбачыла ў Белавежы. Сапраўды, як мала трэба слоў, як трэба быць далікатным і ўмелым, каб стварыць штосьці такое і... як не хапае нам сёння такога рамантычнага, бескарыснага захаплення!

Калі ўжо гаварыць аб нейкіх асабістых перажываннях, то спадабаліся мне карціны беластачанкі Ірэны Муселяк. Асенняя Белавежа прадставілася ёй у вострых колерах, на яе карцінах нейкія няўхвытныя сімвалы ветру, асенніх змен, моцы прыроды. Навеяны прыродай і карціны Тэрэсы Навельскай, практанткі з „Фаст"; арыгінальная яе карціна „Над возерам". Крыстына Хабура з Кракава ўдала перанесла на дрэва партрэты сваіх калег па пленеру. Адрозніваюцца карціны Кшыштафа Буцкага з Аполя, у якіх дамінуе свет хатняй жывёлы: старушка сядзіць на парозе і корміць курэй; стаіць карова; конь ходзіць па лузе...

Агледзеўшы вынікі апошняга белавежскага пленеру і зважыўшы ўсе „за" і „супраць", я перастала здзіўляцца таму, што мне адразу кінулася ў вочы на вернісажы 11 мая. У новы выставачны салон, так званыя „лётаючыя талеркі", пабудаваны між вакзалам і касцёлам Св. Роха перад дажынкамі і прыняты з вялікім энтузіязмам, на вернісаж прыйшла мінімальная колькасць людзей. Відаць, пакуль што па культуру, па мастацкія перажыванні беластачане заходзяць толькі, калі ім „па дарозе". Ці не віна ў гэтым і нашых мастакоў?..

**Ада Чэчуга**



*Анна Карыбут-Дашкевіч ужо пару ладных год не можа выйсці з абсесіі анатоміі чалавека...*

# Што такое паэзія

**(СУСТРЭЧА З АЛЕГАМ ЛОЙКАМ)**

Па запрашэнню Таварыства ўсеагульных ведаў (ТВП) ад 15 да 24 мая г.г. знаходзіўся ў Польшчы прафесар, доктар філалагічных навук, выкладчык беларускай літаратуры ў Мінскім дзяржаўным універсітэце і адначасова вядомы паэт Алег Лойка.

Нягледзячы на вялікую колькасць сустрэч, запланаваных гаспадарамі ў розных гарадах краіны, А. Лойка знайшоў час, каб сустрэцца са студэнтамі Інстытута рускай, беларускай і ўкраінскай філалогіі, якім прачытаў лекцыю аб сучаснай беларускай літаратуры; сустрэўся таксама з аматарамі паэзіі варшаўскага аддзела БГКТ.

Сустрэча на Сенатарскай адбылася 16 мая г.г.

Пасля сардэчнага прывітання слухачамі госць распачаў сваё выступленне ад пытання: што такое паэзія? У адказ на гэта пытанне прыгадаў ён змест андалузскай легенды.

Дапытліваму юнаку, што апынуўся ў багатым палацы, сказалі: вось у гэтай суседняй зале знаходзіцца паэзія Наэпаль, нельга туды ўваходзіць. Цікаўны юнак тайком зірнуў праз дзірку ад ключа. Угледзеў ён там прыгожых белых коней, якія гойсалі з развеянымі грывамі. Калі юнак пачаў уважліва ўзірацца, коні зніклі, расплыліся ў тумане.

— Паэзія, — сказаў А. Лойка, — нешта прывабнае, прыгожае, няўлоўнае, пачуццёвае, як каханне. Свае ўзнёслыя пачуцці паэты выражаюць у прыгожым мастацкім слове. Гэтым прыгожым мастацкім словам захапляўся я з дзіцячых гадоў. За партай польскай даваеннай школы ў Слоніме вывучаў радкі верша М. Канапніцкай:

Idą, idą dzieci drogą,
Siostrzyczka i brat.
I nadziwić się nie mogą,
Jaki piękny świat.

Захапляючыся навакольным светам, прыйшоў да вываду, што толькі на роднай мове, мове сваёй маці, можна найлепш выказаць сваё адчуванне хараства акружаючай прыроды.

Ты, родны край, гармоніі нас вучыш,
Ты вучыш разумець людзей і свет,
Чаруеш мовай матчынай, пявучай,
Нясеш на ёй ад нас жыццю прывет.
(„Хлеб-соль душы маёй")

А. Лойка чытаў свае вершы са зборніка „Каб не плакалі кані". Кані — гэта птушкі. Птушкі, як кажа паэт ва ўступе да свайго зборніка, спяваюць. І толькі аб адной з іх у нашым народзе кажуць, што яна плача, аб кані. Усе нашы штодзённыя намаганні дзеля шчасця чалавека, супраць слёз і гора, супраць шчымлівага крыку каней, каб яны не плакалі, каб усе птушкі спявалі.

Алег Лойка — чалавек надта сціплы і ахвотней гаворыць аб дасягненнях беларускай літаратуры наогул, чымсьці аб сваёй паэтычнай творчасці. Характарызуючы развіццё сучаснай беларускай прозы, А. Лойка ўспамянуў празвішчы В. Быкава (аповесці „Трэцяя ракета", „Альпійская балада", „Сотнікаў", „Абеліск"), І. Пташнікава (аповесці „Лонва", „Тартак"), Ул. Караткевіча (аповесці „Чазенія", „Каласы пад сярпом тваім", „Хрыстос прызямліўся ў Горадні").

Высокую ацэнку даў А. Лойка дакументальна-хранікальнай аповесці з перыяду апошняй вайны А. Адамовіча, Я. Брыля і Ул. Калесніка „Я — з вогненнай вёскі". Аповесць гэта друкуецца ў адрэзках у „Маладосці".

У галіне драматургіі, зразумела, першае месца займае А. Макаёнак( п'есы „Лявоніха на арбіце", „Таблетку пад язык", „Трыбунал"). Варта напомніць, што „Трыбунал" А. Макаёнка нядаўна ставіўся на сцэне Беластоцкага тэатра імя А. Вянгеркі.

Ацэньваючы дасягненні сучаснай беларускай паэзіі, А. Лойка звярнуў увагу на таленавітых паэтаў сярэдняга пакалення Р. Барадуліна і А. Вярцінскага. Абодва паэты маюць многа супольнага. Значнае месца ў іх паэтычнай творчасці займае паглыбленая тэма Айчыннай вайны. У іх інтымнай лі-

(Працяг на стар. 5)

# Дырэктар

Люба Карыцкая, дырэктар пачатковай школы ў Катлах Бельскага павету, з аматарскім артыстычным рухам сустрэлася ўпершыню будучы яшчэ настаўніцай у Плёсках. Тут моладзь ставіла п'есы і выязджала з пастаноўкамі ў навакольныя вёскі.

Прыехаўшы ў Катлы, пастанавіла яна прадаўжаць сваю грамадскую дзейнасць на культурнай ніве. Адзін раз удалося, а потым быў перапынак. Сёлета драмгурток выступіў на цэнтральным аглядзе ў Беластоку.

— Усё сталася амаль звычайна, — гаворыць Люба Карыцкая. — Моладзь наша хацела арганізаваць „забаву". Паколькі ў вёсцы няма ні святліцы, ні клуба, адзіным месцам застаецца школа. А ў школе, як вядома, нельга арганізаваць публічных танцаў. Прыйшлі да мяне самі і сказалі, што яны хочуць паставіць п'есу і што падрыхтуюць усё самі, а каб я прыйшла толькі на генеральную рэпетыцыю. Прызнаюся, я пачала непакоіцца пра іх, бо ж людзі на вёсцы пра іх загаварылі, а як не выйдзе? Ну і... ўдалося. Да мяне даходзілі слухі, што так добра падрыхтаванай п'есы яшчэ ў Катлах не было. Была п'еса, былі танцы, і, як аказалася, на гэтым не быў канец...

— Калі такія аптымістычныя ўражанні, дык што будзе з калектывам у будучыні? — пытаю ў пані дырэктар.

— Перш за ўсё мне б хацелася неяк афіцыяльна закончыць сёлетні культурна-асветны год. Мы планавалі зрабіць гэта ўрачыста пры каве. Падсумаваць і запланаваць працу на будучы год. Пакуль што гэта не выйшла, бо некаторыя нашы артысты здавалі матуру або заканчвалі навучальны год. Але гэта яшчэ зробім. Планую таксама пазбіраць у вёсцы апісанні паасобных абрадаў і песень і на падставе гэтага зрабіць інсцэнізацыю.

Пакуль што гэта толькі планы пані дырэктар, але не настолькі ўжо цяжкія, каб нельга было іх увесці ў жыццё. Такія планы, як паветра, патрэбны нашаму аматарскаму руху.

**Тэкст і фота А. Карпюка**



*Дырэктар Л. Карыцкая над класным журналам.*



У НАШЫМ АБ'ЕКТЫВЕ

# А ГЭТА ШТО?

Разлілася Нарва. Вядома, вясна. Быццам хмельнай брагі хлябнуўшы, пайшла гуляць па прыбярэжных сенакосах. На калоніі Ільяшукі, што каля Воўчага Горла, амаль побач з хатамі забулькала. Замежных вандраўнікоў у госці прывяла — лебедзяў снежнабелых.

Крылы ветразямі распусціўшы, Ён, быццам у танцы, віруе за Ёю. А Яна, сарамлівая з позы, усё ўцякае быццам. То паверне сюды, то туды, то дзюбку ўлева, то ўправа пахіліць і так і маніць, так і маніць за сабой. Куды захоча, туды і павяла...

Штодзень іх корміць хлебам 15-гадовы Алёша Харкевіч. Да яго аднаго прывыклі. Як хатнія гусі, амаль да рук падплываюць.

І так штогод. Пабудуць і далей паляцелі. Наступнай вясною паявяцца ізноў. Калі ласка. Вітайце, белакрылыя птахі! З радасцю прымем, чым хата багата.

**Мік**

# Ніна Мушынская

## — заслужаны дзеяч культуры

**На ваяводскай урачыстасці з нагоды Дня дзеяча культуры, якая сёлета адбылася 24 мая ў Элку, найбольш заслужаныя культурныя дзеячы былі ўзнагароджаны дзяржаўнымі ўзнагародамі. Сярод іх — вядомая актывістка БГКТ, душа гарадоцкага самадзейнага калектыву — Ніна Мушынская. Узнагароджана яна адзнакай „Заслужаны дзеяч культуры". Сардэчна віншуем!**

Пачатак на стар. 1

# КАНСТРУКТАР

мы ў Аўгустове і гэтыя 5 кіламетраў туды і назад неабходна было прайсці кожны дзень.

Да пані Таццяны прыбеглі дзеці, прытуліліся з абодвух бакоў.

— А чаму тата так доўга не вяртаецца дамоў? — запытала Аня або Кася, бо яны падобныя адна на адну і я не змог іх ад сябе адрозніць.

— Тата на рабоце, прыдзе пазней.

Доктар медыцынскіх навук Ежы Більчук працуе ў Гданьскім медінстытуце, вядзе заняткі са студэнтамі. Па нацыянальнасці ён украінец.

— А вы, — звяртаюся да пані Таццяны, — беларуска. Дык якія ў вас дзеці?

— Дзеці ў нас звычайныя, нашы, — адказала яна. — Пры гэтым мы стараемся, каб яны поўнасцю ўсведамлялі сабе нацыянальныя вытокі сваіх бацькоў. Гэтаму найлепш садзейнічаюць пабыўкі нашых дзяцей у дзедкаў у Аўгустове пад Бельскам і ў Харастаце пад Владавай, адкуль паходзіць мой муж.

— А як вы пазнаёміліся?

— У клубе Украінскага грамадска-культурнага таварыства, што на вуліцы Доўгі Тарг.

— Там таксама клуб БГКТ...

— Так, я ведаю... але тады яшчэ яго не было...

— Пані Таццяна, вы працуеце ў польскім асяроддзі...

— Я разумею вас... Вось калі я прыйшла на цяперашнюю працу, сябры па рабоце не ведалі, у які дзень мае імяніны. Іх у польскім календары няма. І раптам 25 студзеня мяне проста абсыпалі кветкамі і падарункамі. Усе працаўнікі аддзялення прыйшлі віншаваць мяне з імянінамі... Аказалася, што дзень маёй святой апякункі знайшлі яны ў нейкім беларускім ці ўкраінскім, або праваслаўным календары, аб чым і я сама добра не ведала... Жывем мы згодна.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## 20 год ПТТ-К у Бельску

Юбілей дваццацігоддзя сваёй дзейнасці святкуе аддзел ПТТ-К у Бельску. Тут узнікла першая ў нашай краіне турыстычная база для пешых турыстаў. Цяпер намаганні бельскага аддзела ПТТ-К накіраваны на стварэнне музея бельскай зямлі, крамы з рэгіянальнымі сувенірамі і турыстычнымі выданнямі, а таксама турыстычнай базы на некалькі дзесяткаў начлежных месц. (ця)

## Беластоцкі амфітэатр

У цэнтры Беластока, на ўзгорку Магдалены расце новы аб'ект культуры — амфітэатр на пяць тысяч асоб. На тутэйшай сцэне будуць адбывацца тэатральныя і эстрадныя спектаклі, спартыўныя мерапрыемствы, дэманстравацца кінафільмы.

22 ліпеня гэтага года ў беластоцкім амфітэатры адбудзецца першы ўрачысты спектакль.

Крыху пазней будзе пабудаваны будынак на гардэробную для акцёраў, раздзявальню і кавярню на 90 месц. (ця)

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ЭДВАРДА ТАМАШЭЎСКАЯ



Эдварда Тамашэўская мае 12-гектаравую гаспадарку ў вёсцы Ляўданшчына Дуброўскага павету. Яна вядома ў павеце як грамадскі дзеяч і добры гаспадар, атрымлівае высокія ўраджаі збожжавых культур і гадуе многа свіней. Найлепш удаюцца авёс „Флемінгсвайс" і ячмень „Дамазы". Збірае яна яго 30 і больш цэнтнераў з гектара. Добра расце бульба „Эпоха" і „Флісак". Праўда, пад усе гэтыя культуры Эдварда Тамашэўская не скупіць мінеральных угнаенняў. Гадуе яна ў сярэднім 22—30 свіней і пяць свінаматак. У гэтым годзе прадала яна на пункце скупкі ў Сухаволі 14 свіней, а да канца года прадасць яшчэ 40 штук.

Працы на гаспадарцы хоць адбаўляй, таму Эдварда Тамашэўская карыстаецца паслугамі спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Спадзяецца аднак яшчэ перад жнівамі атрымаць навюсенькі трактар. Будзе на ім працаваць яе сын, які вучыцца яшчэ ў сельскагаспадарчай школе ў Дуброве.

Прыемна ў хаце Эдварды Тамашэўскай. Пакойчыкі ў ёй абсталяваны, быццам у камфартовай гарадской кватэры. Ёсць цэнтральнае ацяпленне, ванна, тэлевізар, прыгожая мэбля.

На панадворку Эдварды Тамашэўскай мураваныя хлеўні, прасторная стадола.

Эдварда Тамашэўская — вядомая актывістка. Яна старшыня мясцовага 32-асабовага гуртка вясковых гаспадынь, член праўлення ПЗКР і ВЗКР. Жанчыны з Ляўданшчыны вельмі гаспадарныя. Гадуюць яны многа курэй, качак і гусей, а таксама ахвотна вучацца на кулінарных і касметычных курсах.

За высокія прадукцыйныя вынікі і за паспяховае выконванне грамадскіх абавязкаў Эдварда Тамашэўская ў мінулым годзе ўзнагароджана Сярэбраным Крыжам Заслугі.

**Я. Цялушэцкі**

Пачатак на стар. 1




дарогі з Кляшчэль у Чаромху і Мілейчыцы. І гэтага Слівінскага таксама ўспомніў. Сапраўды, гэта абяздолены чалавек. Ад маленства ён паралізаваны, не валодае левай рукой, кульгае, ды непрактычны з яго чалавек. Аднаму толькі змог навучыцца: пасвіць авечак. Хадзіў за імі па кляшчэлеўскіх лугах і пералесках вельмі доўга, здаецца, 19 ці 20 гадоў і раптам стаў непатрэбны, бо ў лесе расце маладняк і туды авечак нельга запускаць, а балота асушылі і гуртавое ліквідавалі, дык і авечак перасталі пасвіць чарадой. Такім чынам Баляслаў Слівінскі застаўся без „штатнага" прыдзелу і без перспектыў на якую-колеч інвалідскую пенсію, бо ён сам не ведаў і не было каму падказаць яму, што праца пастуха аднолькава важная, як і праца начальніка і, згодна з правам, пастух таксама павінен быць застрахаваны (убяспечаны) і тады ў выпадку інвалідства, або з увагі на старасць кантора грамадскіх страхаванняў (ЗУС) абавязана была б цяпер плаціць яму пенсію. На жаль, кляшчэлеўскі пастух не быў застрахаваны і застаўся без граша пры душы, бо нічога іншага ён не ўмеў і не змог рабіць. А дзяцей трэба было пасылаць у школу. Іх трое. Самаму старэйшаму 16 гадоў, а наймалодшай Марысі — 11. Іх маці таксама нямнога больш ад мужа ўмела, але мае прынамсі здаровыя рукі, дык далі ёй працу ў мясцовай бетанярні, дзе не трэба вялікай навукі, каб мясіць жвір з цэментам. За такую працу аднак і плата, вядома, невялікая. Не было тады ў Слівінскіх за што рамантаваць старога або будаваць новы дом.

Прапанова шафёра Глацкага, кінутая нібы жартам, спадабалася кляшчэлеўскай моладзі. А што, каб сапраўды гэтаму пастуху паставіць нейкі невялічкі домік? З міру па нітцы — і голаму рубашка. Тут жа склалі камітэт пабудовы, які ўзначаліў Барыс Шчука, а яго скарбнікам выбралі Яўгена Юзвюка. На другі дзень абмеркавалі справу з начальнікам гміны і сакратаром партыйнай арганізацыі доктарам Аляксандрам Мальцам. Зайшлі да старшыні ГС і загадчыка мясцовай МБМ. Усе абяцалі дапамогу. Асабліва ўцешыўся начальнік гміны, бо яго яшчэ перад мінулагоднімі дажынкамі папікалі, што не ліквідуе гэтай кампраметуючай развалiны.

— Мала хто адсылаў нас з пустымі рукамі, — сцвярджае Міхась Глацкі. — Такі Барыс Шчука першы выкладжыў 300 зл., я сам даў 200, а іншыя не менш чым па 100. Ад пажарнікаў, ад ГС, СОП-у, ПОМ-у і іншых устаноў атрымалі мы па 500 зл. МБМ дала бясплатна свае трактары. Такім чынам за кароткі час сабралі мы звыш 20 тысяч злотых і палажылі іх на ашчадную кніжку.

— Пачаткова людзі не хацелі нам верыць, — кажа галоўны казначэй гэтага мерапрыемства Яўген Юзвюк. — Гаварылі, што мы ўсё прап'ем. Аднак калі мы купілі ў Еляцы за 17,5 тысячы злотых яшчэ зусім добрую хату з смалістага дрэва і, зняўшы толькі чарапіцу, прыцягнулі яе трактарамі ў Кляшчэлі, тады людзі паверылі, што мы не жартавалі.

Стаіць цяпер гэта скромная, яшчэ свежай фарбай пахнучая драўляная хата, якая доўга застанецца помнікам людской добразычлівасці і дзейснага спачування ў бядзе. Яна канчаткова пераканала мяне, што **чалавек чалавеку аднак можа быць братам.**

На парозе гэтага доміка прывітала нас маленькая Марыся. Яе дзіцячая ўсмешка і радасць у вачах — найлепшая заплата за турботы кляшчэлеўскіх актывістаў. І нашае ім дзякуй!

**Віктар Рудчык**
фота аўтара



*Гэты скромны домік ахвяравалі кляшчэлеўскія людзі інваліду Баляславу Слівінскаму.*

БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА — АЛЯКСАНАР БАРШЧЭЎСКІ

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ — ЧАСТКА IV

**Крышталізацыя пачуццяў.** Сярод мноства чалавечых пачуццяў, якімі жыў і якія развіваў у сабе Багдановіч, хочам заняцца толькі адным, нацыянальным пачуццём. Бадай што ніводнаму з беларускіх пісьменнікаў не было так цяжка, як Багдановічу, сказаць: „Я беларус і я буду служыць беларускаму адраджэнню!" У чым заключалася гэтая цяжкасць? Ва ўсёй спецыфіцы жыцця Багдановіча. Пакінуў ён Беларусь тады, калі было яму ўсяго некалькі гадоў, усё жыццё правёў па-за межамі роднай краіны, не меў штодзённага кантакту ні з беларускім пейзажам ні, што найважнейшае, з роднай мовай. І тое, што, жывучы далёка ад Беларусі, маючы штодзённы кантакт з прыгожай рускай мовай і багатай рускай літаратурай, пацягнуўся Багдановіч да далёкага роднага, належыць да фенаменальных з'яў. Тым больш, калі параўнаем гэта з тымі, на жаль, даволі шматлікімі беларусамі, якія, жывучы ў поўнай свабодзе на сваёй зямлі, дабравольна выракліся ўсяго роднага. Варта прасачыць працэс зараджэння і развіцця ў сэрцы Багдановіча нацыянальных пачуццяў. Якія былі прычыны і ўмовы гэтага працэсу? Чаму, жывучы ў аднолькавых умовах, браты Багдановіча не праяўлялі зацікаўленасці Беларуссю, а Максім стаўся найпрыгажэйшым песняром яе? Мабыць, сэрца Багдановіча, яго інтуіцыя, інстынкт прывялі яго ў рады беларускіх пісьменнікаў і барацьбітоў за адраджэнне краіны. Не значыць гэта аднак, што ўмовы, факты з сямейнага і грамадскага жыцця не адыгрывалі ў працэсе крышталізацыі нацыянальных пачуццяў ніякай ролі. Прыгледземся да некаторых з гэтых умоў і фактаў.

Бацька паэта гаворыць у сваіх успамінах аб тым, што значную ролю ў збліжэнні Максіма да беларускай мовы і беларускага фальклора адыграла Анэля Асьмак. Была яна бабкай паэта — роднай маткай яго бацькі. Асьмак дасканала ведала вялікую колькасць беларускіх казак. Апавядаючы іх, уводзіла Максіма ў цудоўную фантастычную краіну народных беларускіх уяўленняў аб чалавеку, звярах і прыродзе. Характарызуючы ролю бабкі ў разумовым і нацыянальным развіцці Максіма, яго бацька піша: „Передача сказочного сюжета для неё было творческим актом и каждый раз она вносила в обработку сюжета новые черты; говорила сильно, нараспев, придавая повествованию заметную ритмичность. В моих записях сказок эта ритмичность, по возможности, сохранена. По этим сказкам Максим ознакомился впервые с белорусской речью. Она знала напамять множество белорусских песен и вообще была носительницей и хранительницей народной старины".

Зрэшты, Максім сутыкаўся з беларускім фальклорам не толькі пры дапамозе бабкі. З беларускай народнай творчасцю пазнаёміў яго і бацька, які сабраў вялікую колькасць беларускіх казак. Бацька падрыхтаваў спецыяльную фальклорную „хрэстаматыю", у якую сабраў казкі з найбольш вядомых зборнікаў Раманава і Шэйна. З гэтай хрэстаматыяй пазнаёміўся Максім у дзяцінстве. У пазнейшы перыяд, калі Багдановіч стаў гімназістам, быў ён у стане чытаць усе фальклорныя беларускія зборнікі. Дзякуючы ім Багдановіч глыбока пазнаў фармальны і зместавы бок беларускага фальклора, пазнаў духовы склад беларуса, свет яго ўяўленняў і адчуванняў.

Значную ролю ў крышталізацыі нацыянальных пачуццяў у Багдановіча адыграў настаўнік рускай мовы ў Ніжненоўгарадскай гімназіі Кабаноў. Кабаноў быў беларусам. Цікавіўся ён гісторыяй Беларусі. Максім адчуў у Кабанове родную душу. Кантактаваўся з ім; размаўлялі аб далёкай краіне, аб яе мінулым, аб яе грамадскім і культурным сучасным. Размовы з Кабановым паглыблялі веды Багдановіча аб Беларусі. Разам з гэтым паглыбленнем расла любоў Максіма да роднай краіны.

У перыяд прабывання Багдановіча ў Ніжненоўгарадскай і Яраслаўскай гімназіях яго зацікаўленні беларускім выходзяць з фальклорных рамак. Зразумела, далей цікавіўся беларускай народнай творчасцю, аднак побач яе пачаў вывучаць навуковую літаратуру, прысвечаную Беларусі. Чытаў перш за ўсё рускіх аўтараў, якія займаліся гісторыяй, этнаграфіяй і гаспадаркай Беларусі. Найбольшую ўвагу Багдановіча прыцягнула эпоха Вялікага княства Літоўскага. Нацыянальная спецыфіка гэтай дзяржавы, пануючая ў ёй паэзія беларускай мовы былі прадметам вывучэння з боку Багдановіча. У пазнейшы час Багдановіч сам стане даследчыкам гэтай эпохі і напіша аб ёй цікавыя публікацыі.

 

(Працяг са стар. 3)

## ШТО ТАКОЕ ПАЭЗІЯ

рыцы знаходзяцца цыклы дасканалых вершаў, прысвечаных роднай маці. Абодва паэты пішуць каларытнай мовай, у іх вершах выступае метафарычнасць, філасофская задума, разнастайнасць вобразна-выяўленчых сродкаў.

Адказваючы на пытанне: беларуская мастацкая літаратура за мяжой, — А. Лойка падкрэсліў, што як паэзія, так і проза заваёўваюць сабе штораз большую папулярнасць між народамі. Прыкладна, у Англіі выйшла анталогія беларускай паэзіі, аповесці і вершы паасобных беларускіх аўтараў штораз у большых маштабах перакладаюцца на мовы краін народнай дэмакратыі.

А. Лойка гаворыць надта сугестыўна, цікава, з паэтычным натхненнем, ён проста зачароўвае слухачоў.

Гэтая надзвычай карысная сустрэча застанецца назаўсёды ў памяці і сэрцах пастаянных наведвальнікаў клуба БГКТ у Варшаве.

З атрыманымі пасля сустрэчы кветкамі ў руках паэт прадаўжаў размову са слухачамі аж да дзвярэй гасцініцы, куды цэлай гурбой правялі дарагога госця паклоннікі яго таленту, развітваючыся са словамі: „Да пабачэння! Да новых сустрэч!“

**Віктар Швед**

## ФАЛЬКЛОР

### ВЯСНЯНКА




*Ой, седу я, седу в оконэчко прэч,*
*А мой мілы чорнобрывы жэнэ волы пасть,*
*А мой мілы чорнобрывы жэнэ волы пасть.*
*Ой, кіну я, кіну верэтенцэ в окно,*
*Сама выйду проті ёго, як ясное со(нцэ),*
*Сама выйду проті ёго, як ясное со(нцэ).*
*Каб я міела крыла, то я й поліетела б,*
*Я своему міленькому волікі запыніла б,*
*Я своему міленькому волікі запыніла б.*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

Гэтая песня спявалася вясною паміж правадной нядзеляй і сенакосам.




## Скарбы на сметніку

Кожны чалавек, сябры, як кажуць, дурэе па-свойму. Адзін можа цэлы дзень з вудзільнем прасядзець над рэчкаю, дзеля таго толькі, каб пару саплівых акунькоў прывалачы дахаты. Другому дай стрэльбу ў рукі і ў лес пусці — два дні не ўбачыш. Іншаму няхай дзяўчо якое пальцам здалёк кіўне, на край свету, язык высалапіўшы, бегчы гатоў.

Нямала і такіх, якія над чаркай гарэлкі душу адводзяць, забываючыся пры тым часта пра абавязкі, сем'і і свет цэлы. Нездарма ў народзе гавораць: душа, яна меру знае — пакуль ракам не стане, даволі не скажа.

Усё гэта, любенькія, справа густу, як лічыць мой сабака, англійскі сеттэр — Бары, аблізваючы свой сыты трыбух і тую якраз ваколіцу, што пад хвастом.

Проста кожны чалавек імкнецца да таго, каб запоўніць свой свабодны час, нейкую пустэчу ў сваім жыцці, чымсьці цікавым, чымсьці, на сваю думку, вартасным.

Амаль кожны другі чалавек сёння калекцыянер. Збіраюць паштовыя маркі, старыя манеты, значкі розныя, наклейкі і наогул рознае старое ламачча. Салідныя, здаецца, дзядзькі, вырваўшы скульсці старую жалязяку, гадзінамі яе скрабуць, чысцяць, бляск на ёй наводзяць і ставяць у хаце, жонцы на злосць, а іншым збіральнікам на зайздрасць.

Ну і нашто? Карысць з гэтага ўсяго якая, спытаеце? Што яны з гэтага маюць? Т-а-а-к. Паспрабуй адкажы.

Не ўсё бачыце, даражэнькія, на гэтым свеце на грошыкі пералічыць можна. Што аднаму ламаччам непатрэбным, другому дзіўным скарбам здаецца. Што адзін выкінуць гатовы, не думаючы, другі песціць, галубіць будзе, як дзіцё малое будзе цешыцца. І не зразумець таго ніколі таму, хто не быў калекцыянерам, чыя душа збіральніцкім агнём не гарэла.

Вось, на той прыклад, сябра мой, Чыкчырычкін, ступкі розныя збірае. Такія, ведаеце, звычайныя, у якіх нашы бабкі перац, лаўровы ліст і іншае зелле таўклі. Бываюць яны з чыгуна, спатыкаюцца і латунныя — рознай велічыні і формаў.

І трэба ж было даведацца хлапцу, што мае адна цётка ў вёсцы Валілы ступку якраз такую, якой яму яшчэ прыдбаць не ўдалося. Без капейкі, як кажуць, мільён — не мільён. Без аднаго экземпляра калекцыя — не калекцыя. Адразу туды і папёр.

А цётачка, а золатца, а хочаце грашыма заплачу, а хочаце млынок вам куплю. Вось гэту толькі ступку мне аддайце. А цётка ад прыроды скупая, з тых, што, як кажуць, вашэй у кажуху і тых пералічыць, каменем узяла ўперлася. Не аддасць і ўсё.

Ну, бо мусіць жа штосьці быць у гэтым, калі чалавек за металу кусок грошы добрыя плаціць гатоў. Ну, а калі сябры Чыкчырычкіна, убачыўшы, што таму няшчасная ступка па начах сніцца, вырашылі, каб ратаваць беднага, купіць тую хоць за падвойную цану, — цётка ўпэўнілася, што не абы-які скарб у хаце мае.

Пранюхалі, пэўна, штосьці паны тыя, ёсць пэўна нешта ў той ступцы ў сярэдзіне. Ого! Яе не правядзеш на мякіне. Нездарма яна столькі год каля школы кароў на пашу ганяла.

І вось вечарком, вокны прысланіўшы, вырашылі яны з мужам разведаць тую тайну. Муж рукавы закасаў і спачатку таўкач, а пасля ступку нажоўкай пілуе, сапучы з натугі. Цётка, язык прыкусіўшы, вочы косіць — калі ж тое золата сыпнецца ўрэшце.

А тут пшык — усяго толькі што ў кускі разваліласся ступка.

Ніхто яшчэ мары не зглавіў у рукі. Думак, пачуццяў, імкненняў, не пераведзеш на грошы. Яны, як тая залатая рыбка, існуюць проста. А ў лапы ўзяць захочаш — перад разбітым застанешся карытам.

**Ларс**




## „Запрасіў“ у госці

Чацвёра швагроў часта сустракаліся на пачастунках. То ў аднаго, то ў другога. І ў трэцяга і ў чацвертага швагра. А пяты швагер таксама любіў пабываць у гасцях, але ніколі да сябе не запрашаў. І вось адзін з гэтых швагроў хацеў пасароміць скупога сваяка. Паехаў ён да сваіх траіх швагроў у суседнія вёскі і кажа:

— Іван у нядзелю ў госці запрашае, але сам рыхтуецца да балю і не мае часу прыехаць, дык мяне ён паслаў да вас.

— Што гэта з ім сталася, мо скупасць яму надаела, — здзіўлена гаварылі швагры. — Паедзем, абавязкова паедзем, пабачым, што за баль Іван устроіць. І, згодна з запрашэннем, роўна ў чатырнаццаць гадзін, у час абеду, разам трое швагроў з жонкамі і дзецьмі спаткаліся на дарозе, заўчасу аблізваючыся, уяўляючы сабе смачны абед і глыбокую чарку ў Івана.

Пад'язджаюць пад яго хату і бачаць: гаспадар на панадворку.

— Куды вы едзеце такім вялікім каталам? — спытаў ён у швагроў.

— Да цябе ў госці, — у адзін голас крыкнулі яны. — Пятрук ад твайго імя нас запрасіў.

— А Пятрук не прыехаў? — абурыўся Іван і крыкнуў: — дык няхай жа ён і частуе вас, я вас не прасіў. І ўсе разам пачалі лаяцца на швагра Пятрука, які ўсіх так ашукаў.

(мх)

(Працяг са стар. 2)

## „Паўлінка“ — аперэта

Выключна цікава прадстаўлена зборышча ў доме Крыніцкіх, у якім прымае ўдзел некалькі дзесяткаў хлопцаў, дзяўчат, жанчын і мужчын. Каля сарака чалавек гасцей, як па камандзе, сёрбаюць з аглушальным прыцмокам гарбату з талерачак. Цікавая сцэна, у якой Быкоўскі вучыць гасцей сучасным танцам. Маем у ёй дачыненне з гіпербалічным перабольшаннем. Быкоўскі танцуе ў дзікім тэмпе нейкія зусім сённяшнія рокен-ролі, твісты і прыпадачныя гойсы святога Віта. Усё гэта ўспрымаецца натуральна, незалежна ад таго, што не застаецца ў згодзе з гістарычным мінулым, але змяшчаецца ў аперэтачнай умоўнасці.

Захаваўся поўнасцю ў аперэце матыў кахання Паўлінкі і Якіма Сарокі. Ролю Паўлінкі ў розных спектаклях іграюць тры розныя актрысы. Я бачыў толькі адну. Хочацца падкрэсліць, што ў яе захаванні, арыях многа шчырага і беларускага.

Падсумоўваючы, хочацца падкрэсліць, што „Паўлінка“-аперэта — твор удалы. Нягледзячы на пэўныя, непазбежныя, зрэшты, адыходжанні ад Купалаўскага тэксту не пярэчыць яна духу Купалы, а толькі творча яго развівае. Цікавая таксама ў аперэце музыка і ігра акцёраў.

Пасля спектакля ўдалося мне правесці з аўтарам лібрэта — Алесем Бачылам размову.

Але аб гэтым наступным разам.

**Алесь Барскі**

## САКОЛКА — ГУРАНЫ

26 мая дырэкцыя ПКС-у адкрыла новую аўтобусную лінію Саколка-Гураны. У вёсках Паўднёвы Востраў, Новы Востраў, Свідзілаўка і Гураны быў гэта такі вялікі дзень, амаль як той, калі ўпершыню ў вясковых хатах загаварыла „точка“, або загарэлася электрычная лямпачка, або ўпершыню заарана было поле трактарам, а збожжа зжата і змалочана камбайнам.

Дарога ў Гураны доўга рыхтавалася. Але ўрэшце сяляне грамадскім чынам зрабілі добрую „жвіроўку“ і дачакаліся на гэтай лініі аўтобуса. Неабходна аднак яшчэ зрабіць адпаведныя захады, каб аўтобус хадзіў не толькі ў напрамку Саколкі, а і ў напрамку Беластока.

Цешацца цяпер і вёскі Падліпкі, Новая Грыбоўшчына, Старая Грыбоўшчына, Азерскія, Сасновік, а нават Лішчаная, Нетупа і Шацілы. Жыхарам гэтых вёсак да аўтобуснага прыпынку стала намнога бліжэй.

У Гуранах урачыста сустрэлі першы аўтобус і едучых у ім прадстаўнікоў улад. Вучні далі канцэрт. Усе былі вельмі задаволены і ўдзячны гуранскім настаўнікам, галоўным арганізатарам урачыстай сустрэчы першага аўтобуса ПКС у вёсцы.

(мх)

### СУПРАСЛЬ ПЕРАМАГЛА ХАРОШЧУ

На стадыёне ў Харошчы Беластоцкага павету адбыўся турнір гмін Супрасль—Харошча. У праграме яго былі: выступленні народных расказчыкаў, спевакоў і маладзёжных калектываў, конкурсы грамадска-палітычных ведаў, спаборніцтвы пекараў-кандытараў, спартыўныя мерапрыемствы. Двума пунктамі перавагі перамаглі госці. Вынік турніра быў 28:30 для Супраслі.

**Фота Я. Цялушэцкага**






### КРОЎ — НЕЗАМЯНІМАЕ ЛЯКАРСТВА

**У Беластоцкім ваяводстве дзейнічаюць 44 клубы ганаровых донараў, у тым ліку 12 вясковых. Найлепшымі з'яўляюцца клубы ў Боцьках і Орлі Бельскага павету, а таксама ў Кляшчэлях, Нарве і Нараўцы Гайнаўскага павету.**

**(ця)**



 

